*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года  № 32 (520)  8 ЖНІЎНЯ 2001 г.

## Гарадзенскі абласны штаб Сямёна Домаша працягвае падрыхтоўку да агітацыйнай кампаніі

5 жніўня 2001 года ў Горадні адбылося паседжанне Гарадзенскага абласнога штаба патэнцыйнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 9-га верасня 2001 года Сямёна Домаша, на якім прысутнічаў кіраўнік рэспубліканскага штаба Алесь Мілінкевіч. Кіраўнікі раённых і гарадскіх штабоў выказалі рашучую гатоўнасць да працягу перадвыбарчай кампаніі Сямёна Домаша. На паседжанні была прынятая рэзалюцыя наступнага зместу:

***"1. Прапануем Сямёну Домашу не здымаць сваю кандыдатуру пасля рэгістрацыі яго ЦВК у якасці кандыдата ў прэзідэнты.***

***2. Звяртаемся да сяброў ініцыятыўных групаў Сямёна Домаша ва ўсіх рэгіёнах Беларусі з заклікам працягваць падрыхтоўку да агітацыйнай кампаніі.***

***3. Звяртаемся да палітычных партый, Уладзіміра Ганчарыка і Сямёна Домаша з патрабаваннем дасягнуць трохбаковага пагаднення аб узгодненым вядзенні перадвыбарчай кампаніі."***

На паседжанні падкрэслівалася значная перавага рэйтынгу Сямёна Домаша над рэйтынгам Уладзіміра Ганчарыка. Выказваліся патрабаванні ўлічыць такую сітуацыю на карысць Беларусі.





## Чаму сябры ТБМ не трапілі ў выбарчыя камісіі?

Перадвыбарчыя ліставанні паміж ТБМ і ЦВК

**"26" ліпеня 2001 г. № 419**

**Спадарыні Л. М. Яромошынай**
**Старшыні Цэнтральнай камісіі**
**Рэспублікі Беларусь па выбарах**
**# 11, Савецкая вул.**
**220010, Менск**

**Паважаная Лідзія Міхайлаўна!**

Як вядома, нумары выбарчых участкаў і іх дакладная тэрыторыя была даведзена да жахароў і грамадскіх арганізацый Першамайскага р-на г. Менска 5 ліпеня 2001 г і былі надрукаваны ў газеце "Минский курьер" №13. Пасля 5 ліпеня 2001 г. сябра Рады ТБМ Першамайскага р-на г. Менска Сойка Мікалай Уладзіміравіч сабраў неабходную колькасць подпісаў грамадзян і вылучыў сваю кандыдатуру ў склад адной з участковых камісій вышэйзгаданага раёна. Аднак нам стала вядома, што адміністрацыя Першамайскага р-на г. Менска груба парушыла Выбарчы Кодэкс Рэспублікі Беларусь (у першую чаргу арт. 13, 18, 35) і прымала заявы і пратаколы на вылучэнне ва ўчастковыя камісіі Першамайскага р-на 27, 28, 29 чэрвеня.

Такім чынам сп. Сойка М.У., як і іншыя сумленныя грамадзяне, вылучаныя ў склад участковых камісій Першамайскага р-на апынуліся апошнімі ў чарзе на сяброўства ў камісіі і не былі туды ўключаныя.

У сувязі з вышэйсказаным, прапаную прызнаць участковыя выбарчыя камісіі Першамайскага р-на г. Менска несапраўднымі і зноў прыступіць да іх фармавання.

**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"  Алег Трусаў.**

---

**№ 403/01-7 ад 01.08.2001**
**на № 419 ад 26.07.2001**

**220005 г. Менск, вул. Румянцава, 13**

**Старшыні грамадскага аб'яднання**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
**Трусаву А.А.**

Паважаны Алег Анатолевіч!

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляе, што Ваша прапанова аб прызнанні ўчастковых выбарчых камісій Першамайскага раёна г. Менска несапраўднымі не мае пад сабой ніякай падставы, таму што рашэнне адміністрацыі аб зацвярдэнні нумароў, тэрыторыі і складу выбарчых участкаў уступіла ў дзеянне **з моманту яго зацвярджэння 26 чэрвеня 2001 года.** Парушэння выбарчага заканадаўства ў дадзеным выпадку няма.

Заявы і пратаколы на вылучэнне грамадзян ва ўчастковыя камісіі адміністрацыя Першамайскага раёна г. Менска мела права прымаць пачынаючы з 26 чэрвеня 2001 года. Выбарчы кодэкс Рэспублікі Беларусь не прадугледжвае забароны на прыём заяў і пратаколаў для вылучэння ва ўчастковыя камісіі ў залежнасці ад размяшчэння паведамлення ў друку, а згодна з артыкулам 18 патрабуецца толькі, каб тое паведамленне было зроблена ў 10-дзённы тэрмін з моманту прыняцця рашэння, што і было зроблена.

Уключэнне грамадзян у склад участковых камісій праводзілася па меры паступлення заяў і пратаколаў. На момант паступлення заявы грамадзяніна Сойкі М. У. склад участковых камісій быў сфармаваны.

**Старшыня камісіі  Л. Ярмошына**

---

**"3" жніўня 2001 г. № 424**

**Спадарыні Ярмошынай Л. М.**
**Старшыні Цэнтральнай камісіі**
**Рэспублікі Беларусь па выбарах**
**# 11, Савецкая вул.**
**220010, Менск**

**Шаноўная Лідзія Міхайлаўна!**

Мы ўважліва прачыталі ваш ліст ад 1.08.2001 г. ; 403/01-7 напісаны на добрай беларускай мове. Цяпер нам зразумела, чаму сябры ТБМ, як правіла, не трапілі ў склад участковых камісіі не толькі Першамайскага раёна г. Менска, а і ў межах усёй Беларусі (да прыкладу, у Лідзе з 40 сяброў ТБМ зарэгістравалі толькі аднаго).

Сістэма адхілення простых грамадзян ад удзелу ў выбарчым працэсе даволі простая. Спачатку адпаведная адміністрацыя пэўнага раёна культурна зацвярджае нумары, тэрыторыю і склад выбарчых участкаў, потым туды хуценька (як было ў Першамайскім р-не Менска) вылучаюцца неабходныя людзі, потым інфармацыя друкуецца ў газеце (вось Вам і галоснасць падчас выбараў!) – і справа зроблена. Кожны, хто прынясе адпаведныя дакументы на рэгістрацыю, нават у дзень публікацыі пераліку ўчасткаў адразу апынецца ў канцы спісу. Дарэчы, у Менску вельмі цікава была надрукаваная інфармацыя аб складзе ўчастковых выбарчых камісій.

Толькі газета "Минский меридиан" надрукавала спісы сяброў участковых камісій Кастрычніцкага раёна г. Менска з інфармацыяй пра крыніцу вылучэння.

Астатнія раённыя тэрытарыяльныя камісіі надрукавалі толькі прозвішчы і імёны сяброў камісій.

У газеце "Минский курьер", якая ёсць у вольным продажы, надрукаваныя склады участковых камісій толькі Маскоўскага, Першамайскага, Фрунзенскага і Цэнтральнага раёнаў.

Інфармацыя пра склад камісій іншых гарадскіх раёнаў Менска змешчаны ў такіх цікавых выданнях, як, напрыклад, "Автозаводец". Гэтыя выданні немагчыма купіць у газетных кіёсках і крамах.

Таксама нас хвалюе той факт, што ўся гэтая інфармацыя надрукавана толькі па-руску, і беларускамоўныя выбаршчыкі павінны займацца самаперакладам, што парушае артыкул 50 дзейнай Канстытуцыі.

З павагай
**Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны"  Алег Трусаў.**






# Гаспадар беларускай вёскі ў Лондане

**А. М.** – Нашы кантакты ідуць найбольш у навуковым плане, у арганізацыі бібліятэчных спраў. Я дапамагаю ў камплектаванні бібліятэкі імя Скарыны, перадаю ў Лондан кнігі, часопісы, газеты. Цяпер узніклі вялікія цяжкасці ў гэтых адносінах, бо не дапамагае дзяржава. Кнігі возяць кіраўнікі дзіцячых груп, студэнты, хто толькі можа. Часам да сабраных мной кніг дабіраюцца мышы.

**З інтэрвію з а. Александрам Надсанам у 1999 г.**

*Любімае ў жыцці?*

**Від мастацтва – заходняе сярэднявяковае мастацтва 14 ст.**

**Літаратурны твор – Я.Колас "Новая зямля", "Сымон музыка".**

**Жанр фальклору – казкі.**

**Занятак – пісаць.**

**Пара года ў Беларусі – канец жніўня – верасень.**



**А. Надсан на радзіме Якуба Коласа**

Хочацца павіншаваць а. Надсана з выхадам кніг напярэдадні юбілею: "Друя і грэка-каталіцкая царква на Беларусі", "Магдалена Радзівіл і грэка-каталіцкая царква".

*3. Колькі разоў наведалі сядзібу ў Лондане, і што зрабіла на Вас найбольшае ўражанне?*

**М. М.** – Больш за 10 разоў.

Гэта паездкі з групамі дзяцей, з заданнем Скарынаўскага цэнтра, на святкаванні ўгодкаў БНР, на 70-годдзе а. Аляксандра.

**А. М.** Наведаў тры разы. У асноўным, для працы ў бібліятэцы. Я завёў картатэку па яе матэрыялах, сабраў інфармацыю таксама па бібліятэках Брытанскага Оксфардскага ун-та.

А сядзіба ўразіла найбольш тым, што там столькі захавана беларускага. У нас няма, а там ёсць. Калі я расказваю тут пра гэтую лонданскую вёску, то мне часам не вераць. І такую вялізную самаахвярную працу практычна здзяйсняе адзін чалавек. Якую магутнасць трэба мець, каб з усім справіцца!

Уражаная таксама была сустрэчай з беларусамі: сем'ямі Сенькаў, Міхалюкоў, Зінгеляў, з Марыяй Мароз і інш.

Уразіла тое, што ў Вялікабрытаніі жыве беларуская вёска з нашай мовай і нашымі клопатамі. Пабачыў яе другою, не такою, як падаецца ў прэсе. Уразіла сама асоба а. Надсана, асабліва мне прыцягальныя такія характэрныя асаблівасці, як прынцыповасць, канструктыўнасць, самаахвярнасць, уменне весці дыялог, уменне цвёрда стаяць на сваіх пазіцыях і разумець пазіцыі другіх.

*4. Якую працу а. Надсана лічыце найбольшай дапамогай Беларусі.*

**М. М.** – Захаванне бібліятэкі і музея, распаўсюджванне ведаў пра Беларусь – гэта неацэнна. Адзін толькі часопіс, што выдаваў а. Надсан "The Journal of Belarussian Stadies", мае каштоўнасць цэлай беларускай бібліятэкі.

**А. М.** – Дапамогу ў чарнобыльскай бядзе вядуць многія, а вось такога асяродку як беларуская бібліятэка і музей на Захадзе больш няма. Таму працу а. Надсана немагчыма пераацаніць. А такія асяродкі павінны быць! Вунь у нас у Менску ёсць і Польскі інстытут, і Інстытут Гётэ і інш.

Гэта вельмі неабходна для маладога пакалення.




**А. Надсан паказвае наведвальнікам музея лагерную кашулю Ларысы Геніюш**

*5. Якія цікавыя выпадкі можаце ўспомніць?*



**А. Надсан і Марыя Міцкевіч з прадстаўнікамі беларускай дыяспары ў Лондане**

**М. М.** – Прыехаў а. Надсан з чарговай гуманітарнай дапамогай, і мы павезлі яе ў Магілёў. Сталі сяліцца ў гатэль. Падае айцец свой брытанскі пашпарт і гаворыць па-беларуску. Адміністратар у шоку. Айцец Аляксандр кажа:

- А ў нас у Лондане ўсе гавораць па-беларуску. Але баюся, што ў Беларусі за тыдзень развучуся.

**А. М.** – Сядзім з а. Надсанам на пл. Перамогі, чакаем аўтобуса. Гаворым, вядома, па-беларуску. Два бэйбусы да нас: "Кончайте со своей мовой, а то в морду получите!" Я ад абурэння сказаць нічога не магу. А Надсан так ціха супакоіў тых і стаў мякка супакойваць мяне. А мне няёмка і балюча – мая ж краіна! Вось такі ён заўсёды – ветлівы, мяккі, але колькі сілы мае.

*6. Што б хацелі пажадаць у пярэдадзень юбілею?*

**М. М.** – Нас збліжае і справа, і юбілейны год:

Мне хутка 50. Хацелася б, каб часцей мы бачылі а. Аляксандра на Беларусі, каб атрымалі ад яго яшчэ болей кніг, каб шанцавала яму ў святой і вялікай справе дапамогі сваёй Радзіме.

Спадзяюся, што ў верасні зноў сустрэнемся ў Лондане на канферэнцыі, прысвечанай 30-годдзю бібліятэкі.

**А.М.** – Хацелася б пажадаць знайсці маладых пераемнікаў і навучыць іх захоўваць такія унікальныя скарбы, як бібліятэка і сама сядзіба, бо сюды гэта перавозіць нельга. Пажадаю добрага плёну, болей прац, кніг, бо гэта ўсё найперш – для нашай Бацькаўшчыны.

Адплыло водгулле гутарак з маімі суразмоўцамі, а я дожу дыялог з юбілярам:

*Шаноўны айцец Аляксандр!*

*Дазвольце мне лічыць сябе вучаніцай Вашай школы-вёсачкі і падзякаваць Вам за пашырэнне той сцежыны, якой я іду да маёй Беларусі, за тую веру і мудрасць якою напоўнілася ў абшарах Вашай бібліятэкі, за прыветна-шырокі стол у Вашай гасцёўні, за якім так вольна елася-пілося-спявалася, за пракапаную крынічку нашай мовы на Англельшчыне, за глыбіннашчырае сэрца сапраўднага беларуса, у якім і мне таксама ёсць месцейка.*

*А яшчэ дазвольце ад імя ўсяго ТБМ павіншаваць Вас з паважнымі ўгодкамі і пажадаць многіх і плённых спраў на ніве служэння нашай адзінай і агульнай Бацькаўшчыне.*

***Людміла Дзіцэвіч, першы намеснік старшыні ТБМ.***





№ 32 (520) 8 ЖНІЎНЯ 2001 г. Наша слова

# Ці патрэбна беларусам беларуская мова?

***25 чэрвеня на гэтае пытанне паспрабавала адказаць "Беларуская газета". Мы ўдзячныя рэдакцыі "БГ" за цікавую падборку і прапануем яе сваім чытачам.***

У Беларусі становіцца небяспечна быць беларусам, які размаўляе на сваёй роднай мове. Гэта ў поўнай меры адчулі на сабе беларускія літаратары, якія 29 траўня пасля завяршэння працы з'езду беларускіх пісьменнікаў вырашылі на дварэ абмеркаваць яго вынікі на роднай мове. Пісьменнікаў затрымалі і даставілі ў міліцыю. Але і там іх прыгоды не скончыліся. Як сказана ў лісце, накіраваным 16 чэрвеня і грамадскім аб'яднаннем "Таварыства беларускай мовы" генеральнаму пракурору Беларусі Віктару Шэйману, "пісьменнікам загадалі даваць паказанні на расейскай мове, змушаючы іх да гэтага пагрозамі". Мяркуючы па ўсім, супрацоўнікі праваахоўных органаў аказаліся не ў курсе тога, што беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай мовай Беларусі, а не прызнакам прыналежнасці да БНФ і да іншых дэструктурных, з іх пункту гледжання, сілаў.

Дык, ці патрэбна беларусам беларуская мова?

***Людміла Ліпская, гісторык.***

-- Гэта тое самае, што спытаць ці патрэбна чалавеку маці? Можа быць, лепш расці ў інкубатары? Мова любога народа -- гэта магчымасць самаідэнтыфікацыі. Яна носьбіт інфармацыі пра гісторыю развіцця народа, яго традыцыі, характар, пра продкаў, карэнні. Таму што кожнае слова не выпадковае, яно аднекуль узнікла. Памяць пра балтаў, славянаў, варагаў, аж да легендарных арыяў – у назвах рэчак, азёраў, вёсак. Яны ўсе жылі тут, і мы згадваем пра іх дзякуючы гэтым назвам, словам іхняй мовы.

Мы асушылі балоты, высеклі бары і дубравы, змянілі да непазнавальнасці ландшафт, давайце яшчэ і мову забудзем. І кім мы тады будзем? Рускоговорящим населением? Нават у індзейскіх рэзэрвацыях імкнуцца сярод некалькіх тысяч чалавек захаваць мову, звычаі, таму што гэта сутнасць народа, гэта так жа індывідуяльна, як узор на пальцах.

***Ірына Юзвак, кіраўнік службы навінаў Радыё "Бі-Эй".***

-- Патрэбна. Мне здаецца, што Беларусь – краіна, якая можа ганарыцца сваёй культурнай спадчынай, традыцыямі, сваёй багатай мовай, але менавіта той, на якой зараз гаворыць так мала людзей, не "трасянкай". Адносіны да нашай мовы, як да мовы, на якой размаўляюць неадукаваныя вясковыя жыхары, - гэта няправільна. У нас вельмі багатая культура, а культура без мовы існаваць не можа, таму трэба адраджаць, вывучаць і развіваць беларускую мову.

***Павел Латушка, прэс-сакратар МЗС Беларусі.***

-- Патрэбна, без усялякага сумнення. Калі мы хочам быць незалежнай краінай і ўвогуле беларусамі звацца, беларуская мова нам неабходна. Але мне здаецца, што гэта залежыць ад канкрэтнага чалавека, ад таго, як ён падыходзіць да гэтай праблемы. Я ўпэўнены, што адраджэнне беларускай мовы яшчэ наперадзе.

***Адам Мальдзіс, прэзідэнт Міжнароднай Асацыяцыі беларусістаў.***

-- Канешне, патрэбна! Я думаю, што знікненне нашай мовы, нават, нерэальна, таму што ёсць гісторыя, ёсць культура, літаратура. Да таго ж, такая пастаноўка пытання не патрэбна нікому, нават самім высокім уладам. Гэта вялікае глупства, якое перад выбарамі прэзідэнта не на карысць ні ўладам, ні апазіцыям. Калі не будзе мовы – не будзе і Беларусі. Будзе "Северо-Западный край", так што не займайцеся правакацыямі. Беларуская мова безумоўна захаваецца на бліжэйшыя сто гадоў, а там – я не ведаю.

***Якаў Басін, віца-прэзідэнт Саюзу яўрэйскіх грамадскіх арганізацый і зграмаджэнняў.***

-- Беларуская мова проста неабходная. Як чалавек, які займаецца гісторыяй, магу сказаць, што тут некалькі разоў пачынаўся працэс беларусізацыі. У канцы 20-х гг. улады ажыццявілі саветызацыю насельніцтва праз развіццё нацыянальнай мовы і традыцый. Яўрэяў праводзілі цераз ідышызацыю, а палякаў – цераз паланізацыю, беларусаў – цераз беларусізацыю. Але потым заўладала тактыка і палітыка, накіраваныя на вялікадзяржаўны шавінізм, усё гэта было адменена, былі высунуты абвінавачванні ў нацдэмаўшчыне. Развіццё нацыянальнай мовы пачало лічыцца нечым накшталт прызнакаў буржуазнага нацыяналізму. А на самай справе ў людзей адбіралі нацыянальную самабытнасць, пачуццё нацыянальнай годнасці, нацыянальную самасвядомасць, якіх не бывае без нацыянальнай мовы. Фактычна гэта працэс русіфікацыі велізарнай шматнацыянальнай дзяржавы з дзесяцімільённым насельніцтвам, працяг палітыкі вялікадзяржаўнага расейскага шавінізму. Гэты працэс пагубны ў першую чаргу для тытульнай нацыі.

***Міхаіл Пастухоў, экс-суддзя Канстытуцыйнага суда.***

-- Я сам па паходжанні расіянін, але ўжо больш дваццаці гадоў з'яўляюся грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і лічу, што беларусам беларуская мова неабходная. Яна павінна быць галоўнай мовай зносін ў краіне, грамадзяне Беларусі павіны ведаць гэтую мову, ва ўсякім разе ўмець размаўляць на ёй. Больш таго, я лічу, што было б мэтазгодным перад тым, як надаваць грамадзянства РБ, увесці экзамен на веданне беларускай мовы, як гэта робіцца ў Амерыцы, і ўвесці ў якасці абавязковага патрабавання для прэтэндэнтаў на пасады ў дзяржаўным апараце бездакорнае веданне першай дзяржаўнай мовы.

***Карлас Шэрман, віца-прэзідэнт беларускана ПЭН-цэнтра.***

-- Патрэбна. Гэта жывая, сочная, багатая мова, адна з лепшых славянскіх моваў. Яна неадменна будзе жыць, па-за залежнасцю ад чыіх бы там ні было палітычных патугаў. Я лічу, што ў адносінах моваў трэба выконваць палажэнні Сусветнай дэкларацыі лінгвістычных правоў, прынятай у 1996 г. у Барселоне. На яе грунце ЮНЭСКА стварыла Дэпартамент лінгвістыкі, які выпрацоўвае міжнародныя канвенцыі па гэтым пытанні. Яны накіраваны не на паглыненне адной мовы другой, а на гарманізацыю правоў людзей, якія размаўляюць на розных мовах.

***Віктар Кучынскі, дырэктар Дэпартаменту па гуманітарнай дзейнасці пры прэзідэнце РБ.***

-- Калі мы – беларусы, дык павінны ведаць беларускую мову. Мова павінна быць у душы кожнага, і калі чалавек імкнецца гаварыць па-беларуску ці на іншай мове, гэта павінна ісці з яго сэрца. Я лічу, што ў сувязі з тым, што ў нашай Канстытуцыі абедзве мовы абвешчаны дзяржаўнымі, то дзяржава зрабіла ўсё для таго, каб беларуская мова займала годнае месца.

***Юрась Бушлякоў, мовазнавец, адказны сакратар часопіса "Arche".***

--Мова, чым далей, тым болей становіцца абсалютна не абавязковым кампанентам у публічным жыцці. За апошнія 5 год беларуская мова значна страціла свае пазіцыі ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі, пры тым, што ў савецкі час яны былі больш трывалыя. Большасць раённых выданняў сёння выкарыстоўваюць дзве мовы, тады, як у савецкі час яны былі цалкам беларускамоўнымі. Толькі ў выданнях паўночна-заходняй часткі краіны захавалася нацыянальная мова. Пры тым палітычным курсе, які існуе сёння, беларуская мова мае мінімальныя перспектывы.




*Менскі піўзавод "Крыніца" лічыць, што мова патрэбная, хоць заміж назвы піва "Любіцельскае" трэба было б напісаць "Аматарскае"*

***Уладзімір Арлоў, пісьменнік.***

-- Без беларускай мовы не будзе і Беларусі. Я абсалютна ўпэўнены, што Беларусь існуе на палітычнай карце Еўропы таму, што існавала, існуе і будзе існаваць беларуская мова, якая робіць нас адметным еўрапейскім народам. Я памятаю гады свайго студэнцтва, калі беларуская мова ўспрымалася як прыкмета ў лепшым выпадку правінцыйнасці, у горшым – неадукаванасці, вясковасці. Але з бегам часу ў свядомасці грамадства адбылася карэкцыя такога ўспрымання – беларуская мова ўспрымаецца сёння, як прыкмета адукаванасці, далучанасці да эліты і, безумоўна, у цяперашняй палітычнай сітуацыі, як прыкмета апазіцыйнасці. Беларуская мова можа стаць падставай для затрымання, збіцця, складання пратакола і г.д. У нашай краіне адбываецца дыскрымінацыя беларускамоўнага насельніцтва. Калі мы звернемся да дадзеных апошняга перапісу, то ўбачым, што абсалютная большасць беларусаў назвала сваёй роднай мовай беларускую, апрача таго, каля 4 млн., адказваючы на пытанне перапісу, заявілі, што карыстаюцца беларускай мовай у штодзённым жыцці. Тым не менш мы назіраем мэтанакіраваную палітыку дзяржавы на скарачэнне беларускамоўнага навучання ў сярэдніх школах. А беларускамоўнага навучання ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі не існуе наогул – такім чынам, выпускнікі беларускамоўных школ не маюць магчымасці працягваць адукацыю на беларускай мове. Мы назіраем штодня скарачэнне беларускамоўнага вяшчання на беларускім радыё, тэлебачанні. У паўсядзённым жыцці ахоўнікі правапарадку могуць заняцца высвятленнем, чаму ты размаўляеш па-беларуску. У нядаўнім нумары беластоцкай "Нівы" надрукаваны ўражанні майго калегі з Польшчы, беларускага гісторыка Яўгена Мірановіча. Ён піша, як нядаўна, знаходзячыся ў Менску, звярнуўся да міліцыянера з просьбай дапамагчы знайсці патрэбны адрас. Пачуўшы беларускую мову, міліцянер паклікаў свайго напарніка і за-патрабаваў дакументы. Убачыўшы пашпарт грамадзяніна Польшчы, ён расчараваны працягнуў: "А-а-а... Значыць, ты паляк... А мы думалі, што ты бэнэфавец".

***Анатоль Красуцкі, дэпутат ПП НС.***

-- Беларусам беларуская мова патрэбна, інакш няма чаго наогул гаварыць пра беларусаў. Я думаю, што дзяржава магла б у большай ступені стымуляваць развіццё роднай мовы, выкарыстоўваючы для гэтага, як прававыя, так і сацыяльныя формы. Спробы дыскрымінацыі мовы, на мой погляд, абумоўлены адсутнасцю высокай нацыянальнай культуры. Калі б у людзей было жаданне размаўляць на сваёй роднай мове, а дзяржава гэта эфектыўна стымулявала, усё было б у парадку. Таму што афіцыйных прававых забаронаў няма, ёсць звычайная бытавая культура, а яна, нажаль, недастаткова высокая.

***Іван Пашкевіч, дэпутат ПП НС.***

-- Мова патрэбна, гэта адназначна. І даказваць гэта - дурнота, паколькі беларусы – тытульная нацыя. Увагі нацыянальнай мове з боку дзяржавы недастаткова. У нас ёсць Закон аб мовах, які не выконваецца, асабіста я некалькі месяцаў назад напісаў спікеру нашага парламенту ліст на беларускай мове, дзе гаварылася, што ён павінен у абавязковым парадку ў працы парламенту выкарыстоўваць дзвюхмоўе. Прайшло ўжо некалькі месяцаў, а я не атрымаў ніякага адказу. Вось вам і рэальнае дзеянне Закона аб мовах. За перыяд працы першай сесіі парламенту на беларускай мове быў унесены толькі адзін закон "Аб бібліятэчнай справе"... Гэта адбываецца таму, што моўная праблема на ўзроўні дзяржчыноўнікаў узведзена ў палітычную. Радыкалы, якія лемантуюць за славянскае адзінства, лічаць, што калі Пятроў загаворыць на беларускай мове, то тым самым ён панясе вып у спіну яднання славянскіх народаў. Гэта поўны абсурд, узведзены ў квадрат. І любога чалавека, які размаўляе на беларускай мове, яны лічаць ворагам беларускага народа, таму што ён быццам бы не хоча яднання.




*Чачэрскі вінаробчы завод таксама лічыць , што мова патрэбная*





*Марцін Шаак*

# Цікавасць да клімату

**Беларускі пісьменнік Васіль Быкаў цэлы год жыве і працуе ў Франкфурце-на-Майне**

Увесь час трапляеш на нешта новае, якое сведчыць пра тое, як жа ў нас змяніліся часы. Можна было падумаць, што беларускі пісьменнік Васіль Быкаў, будучы аўтарам дваццаці перакладзеных на нямецкую мову кніг, у Германіі належыць да ліку найбольш вядомых сучасных пісьменнікаў. Аднак знайсці яго творы аказалася больш складана, чым можна было чакаць: у продажы не было ні адной з тых дваццаці кніг, а знайсці іх у бібліятэках удалося толькі ў новых федэральных землях *(былая ГДР, рэд.)*.



Уз'яднанне Германіі і ўлітаратуры прывяло да радыкальных пераменаў, якія ўцягнулі ў свой вір нават такіх пісьменнікаў, успрыяцце якіх у прынцыпе не павінна было падпасці пад уплыў. Адзін з іх – Васіль Быкаў. Хоць ён зараз жыве ў Германіі і сяды-тады выступае публічна, ён – пісьменнік, які некалі выдаваўся ў Усходняй Германіі, мала каму вядомы на сучаснай літаратурнай сцэне, перш за ўсё на Захадзе. Магчыма, хутка сітуацыя зменіцца, так як з пачатку леташняга года Васіль Быкаў з жонкай жыве ў Германіі. Са студзеня ён – у Франкфурце-на-Майне, прадставіўшым яму права пражывання на адзін год у рамках праграмы "Гарады прытулку". Франкфурт увайшоў у міжнародную сетку "Cities of Asylum", якая ўключае зараз 30 гарадоў, вясной 1998 г. "Па праўдзе кажучы, я не лічу сябе пісьменнікам у выгнанні, - кажа Васіль Быкаў, калі яму задаюць адпаведныя пытанні, - я проста прыняў запрашэнне горада". Знаходжанне аплочваецца буйнейшым у свеце "Франкфуртскім кніжным кірмашом", які адкрываецца ў Франкфурце-на-Майне кожны год у кастрычніку.

Мы сустрэліся з Васілём Быкавым у невялікай, сціпла абсталёванай кватэры ў цэнтры Франкфурта, каб пагаварыць пра яго мэты і намеры ў сувязі са знаходжаннем у Федэратыўнай Рэспубліцы. "Больш за ўсё ў Германіі мяне цікавіць дэмакратычны клімат. І перш за ўсё для мяне важнае пытанне, як нямецкай нацыі ўдалося справіцца са сваім мінулым. Тут ёсць паралелі і з маёй радзімай. Але мне вельмі імпануе воля нямецкага народа суладаць са сваім мінулым". У сваёй творчасці Быкаў, як ніхто іншы засяроджаны на падзеях Другой сусветнай вайны, і пры гэтым мова ў яго воляй-няволяй пастаянна ідзе пра Германію і немцаў. Здавалася б тым самым ён павінен быў стаць – як раз пасля заканчэння халоднай вайны – па сутнасці галоўным "будаўніком мастоў" паміж нямецкімі краінамі, якія зрастаюцца. **Ва ўсякім выпадку**, кнігі Быкава яшчэ незадоўга перад паваротам узносіліся культурнай палітыкай ГДР, як найвыбітнейшае сведчанне дзяржаўна санкцыянаванай "германа-савецкай дружбы". Але менавіта гэтыя абставіны – разам з тым фактам, што толькі нешматлікія чытачы і выдаўцы аказаліся здольнымі без перадузятасці ацаніць якасць літаратурных прац Быкава – прывяло да замоўчвання яго кніг і да маўчання вакол яго персоны, што яўна не адпавядае яго мастацкаму значэнню.

Але пісьменнік, які нямала пабачыў за свае 77 гадоў, адносіцца да гэтага спакойна. Паводле яго прызнання, ён рады ўжо таму, што можа без клопату працаваць у Франкфурце, таму што ў яго яшчэ ёсць творчыя задумкі і іх літаратурная рэалізацыя патрабуе засяроджанасці і спакою. Гаворка ідзе пра аўтабіяграфічны твор, які ў любым выпадку павінен быць пачаты ў Франкфурце. У ім таксама будзе шмат напісана пра Германію, таму што і сам Быкаў, як асоба, сфармаваўся пад уражаннем вайны з Германіяй. Аднак не меншае ўражанне зрабілі на яго воля да прымірэння і здольнасць да крытычнага самааналізу, праяўленыя такімі людзьмі, як Генрых Бёль і Вілі Брандт. "Мы ж і самі знаходзімся ў такой сітуацыі, калі проста абавязаны неперадузята зірнуць на нашую краіну і гісторыю – кажа ён і ўспамінае пра тое, як Вілі Брандт укленчыў перад манументам ахвярам Варшаўскага гета. – У прынцыпе, сучасным палітыкам Беларусі і Расіі трэбала б здзейсніць **аналагічны па сіле сімвалічны** акт пакаяння за памылкі іх папярэднікаў, каб па маёй радзіме магла, нарэшце, пачацца плённая дыскусія аб уласнай гісторыі".

Паўплываў на яго і Генрых Бёль, з якім Быкава звязвае глыбокае біяграфічнае сваяцтва: у час вайны яны ў адзін і той жа час удзельнічалі ў баях у Малдовіі (праўда не сустракаліся). У 1983 г. ён упершыню асабіста пазнаёміўся з лаўрэатам Нобелеўскай прэміі, які думае каталіцкі, на кангрэсе пісьменнікаў у Кёльне, і яго ідэю пераадолення варожасці каханнем, заснаваную на інтэрпрэтацыі драмы "Рамэа і Джульета", Быкаў зразумеў менавіта так, як яна і была задумана: ён пачуў у ёй заклік да пераадолення халоднай вайны і прымірэння народаў.

Ці не змянілася ў сьвятле сказанага яго творчасць з часу знаходжання ў Федэратыўнай Рэспубліцы, пытаюся я Васіля Быкава ў завяршэнні нашай размовы: "Я не ведаю, - гаворыць ён, - але мая жонка лічыць, што з тых часоў, як мы жывём у Германіі, мае літаратурныя творы сталі больш добрымі і мяккімі ў ацэнках. Верагодна гэта тлумачыцца тым, што тут я магу спакойна займацца сваёй любімай справай".

***Часопіс "Deutschland" № 3/2001 г.***

# Куды ідзе ўкраінская мова?

28-29 траўня гэтага года ў Нацыянальным універсітэце імя Тараса Шаўчэнкі ў Кіеве адбылася канферэнцыя "Моўныя канфлікты і гарманізацыя грамадства". Сумесна з іншымі арганізацыямі і ўстановамі канферэнцыю правеў створаны напрыканцы мінулага года Фонд імя Ігара Белазора, названы так у гонар вядомага ўкраінскага спевака і кампазітара, які загінуў летась у Львове падчас канфлікту на моўнай глебе. На запрашэнне Асацыяцыі Таварыстваў украінскай мовы, арганізацыі, якая ўзнікла пасля вычлянення з ТУМ Усеукраінскага таварыства "Просвіта", мне пашанцавала паўдзельнічаць у гэтай канферэнцыі і выступіць на ёй з дакладам "Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі як спосаб палагодзіць моўны канфлікт у Рэспубліцы Беларусь".

Праца гэтай вельмі добра падрыхтаванай канферэнцыі праходзіла ў пяці секцыях: "Моўная палітыка", "Этнанацыянальная ідэнтычнасць, псіхалінгвістыка", "Моўныя праблемы сфер і рэгіёнаў", "Моўная канфліктологія", "Сацыялінгвістыка". Украінскія навукоўцы, выкладчыкі, грамадскія і дзяржаўныя дзеячы, студэнты абмеркавалі сучасны стан украінскай мовы, асэнсавалі здабыткі і недахопы сучаснага ўкраінскага моўнага развіцця і дзяржаўнага моўнага будаўніцтва. На канферэнцыі можна было паслухаць даклады на вельмі цікавыя тэмы: "Міжмоўны канфлікт ва Ўкраіне і шляхі яго развязання на фоне еўрапейскага досведу", "Аспекты канцэпцыі моўнага будаўніцтва", "Этнапсіхалагічныя аспекты моўных канфліктаў", "Праблема правапісу як праблема ўнутрымоўнага канфлікту" і іншыя. (На жаль, не ўсе заяўленыя даклады прагучалі на канферэнцыі, але, можна спадзявацца, яны будуць надрукаваны ў матэрыялах канферэнцыі.) Я меў магчымасць сустрэцца са сваімі добрымі ўкраінскімі сябрамі, кіяўлянамі Ларысай Масэнкай (аўтаркай кнігі "Мова і палітыка") і Багданам Ажнюком (аўтарам кнігі "Моўная еднасць нацыі"), з удзельніцай многіх беларускіх канферэнцый Маргарытай Жуйковай з Луцка, з чарніўчанкай Людмілай Тарнавецкай і іншымі. Натуральна, з'явіліся і новыя знаёмыя: гісторык Генадзь Ефіменка (займаецца ўкраінізацыяй перыяду 30-х гадоў, яго новую кнігу на гэтую тэму я прывёз беларускім гісторыкам) і студэнт-палітолаг 4 курса Нацыянальнага універсітэта "Кіева-Магілянская Акадэмія" Станіслаў Шумлянські. Між іншым, даклад Станіслава на канферэнцыі, прысвечаны дзейнасці ўраду Ющанкі ў кантэксце дэрусіфікацыйнай мадэлі моўнай палітыкі, выклікаў вялікую цікавасць сярод удзельнікаў. (Станіслаў Шумлянські акрамя таго ўваходзіць у студэнцкае навуковае таварыства Кіева-Магілянскай Акадэміі, якое арганізавала некалькі вельмі цікавых канферэнцый. Ахвотныя могуць атрымаць інфармацыю пра дзейнасць гэтага таварыства ў сеціве на наступным адрасе: http://www.ukma.kiev.ua/~ssa).

Паколькі за апошнія два гады я ўжо трэці раз наведаў Украіну, пры гэтым усе выезды былі звязаны з удзелам у навуковых мовазнаўчых форумах, мне цікава было пабачыць розніцу ў настроях украінскіх культурніцкіх дзеячоў, якая міжволі заўважалася ў параўнанні з назіраннямі гадовай даўнасці, калі я ўдзельнічаў у Кіеве ў канферэнцыі "Дзяржаўнасць украінскай мовы і моўны досвед свету". У мяне склалася ўражанне, што чым далей, тым больш украінская інтэлігенцыя расчароўваецца ў тым, як выконваюцца дзяржаўныя праграмы садзеяння ўкраінскай мове. Паказальным у гэтым плане для мяне было тое, што на адрозненне ад леташняй канферэнцыі, важным элементам якой было складанне адрасаванага ўладам выніковага дакумента, сёлета мэта падрыхтаваць рэкамендацыі для гаспадароў высокіх дзяржаўных кабінетаў не ставілася ад пачатку. (Праўда, на заключным пасяджэнні такі пераважыла думка аб неабходнасці такога дакумента, і ён упохапкі быў складзены.) Бачачы выразную непаслядоўнасць дзяржаўнай улады ў ажыццяўленні моўных праграм, усведамляючы, што "мы ўжо ўсё сказалі, але нас не чуюць", частка ўкраінскіх дзеячоў, падобна, усё больш пачынае ўсведамляць, што факт дзяржаўнага суверэнітэту зусім не аўтаматычна цягне за сабой беспраблемнае моўнае развіццё, і дзяржаўныя захады (тым больш, калі яны непаслядоўныя) мусяць падмацоўвацца актыўнасцю грамадскіх арганізацый. Да ліку такіх дзеячоў, відавочна, належыць і старшыня Фонду імя Ігара Белазора, дацэнт Кіеўскага нацыянальнага універсітэта, старшыня ўніверсітэцкага ТУМ Віталь Радчук, дзякуючы арганізацыйнай руплівасці якога была праведзена, як сёлетняя, так і канферэнцыя 1999 года "Украінская мова: стан і перспектывы".

Сёння ўкраінскі моўны рух перажывае супярэчлівы перыяд, калі поруч з несумненнымі дасягненнямі выпадае гаварыць таксама пра відавочныя страты. У прадмове да зборніка матэрыялаў леташняй канферэнцыі "Дзяржаўнасць украінскай мовы і моўны досвед свету" колішні дысідэнт, а цяпер акадэмік Іван Дзюба канстатаваў, што і ў новых умовах працягваецца "магутнае дзеянне стыхіі далейшай русіфікацыі" і нагадаў аб "прынцыповай абмежаванасці адміністратыўных магчымасцяў нетаталітарнай дзяржавы". Слаўты ўкраінскі моваабаронца зазначыў, што "закон пра мовы не выконваецца, праграма падтрымкі ўкраінскай мовы не ажыццяўляецца". На думку Івана Дзюбы, у многіх моўных сферах украінцы аказаліся адкінутымі назад "нават у параўнанні з канцом 80-ых гадоў".

У апошнім выказванні асабіста мне бачыцца вялікая доля перавелічэння. Але калі гэта нават і так, то ўсё роўна, ці няма тут над чым задумацца і нам, беларусам? Украінскі досвед, у прыватнасці, сведчыць, што не ўсе праблемы моўнага развіцця вырашаюцца праз абвяшчэнне і падтрыманне дзяржаўнага суверэнітэту.

Праблемнасць сучаснага моўнага развіцця Украіны, яго неадназначнасць напоўніцу выявілася падчас эмацыянальных дыскусій, на якія была так багатая гэта канферэнцыя.

Яркім эпізодам канферэнцыі была экскурсія ў Лінгвістычны навучальны музей, які месціцца ў адным з прасторных кабінетаў універсітэта (дырэктар музея – прафесар Канстантын Тышчанка). Адначасова з правядзеннем канферэнцыі непадалёк адбыўся жалобны мітынг з нагоды леташніх трагічных падзей у Львове.

Сам факт правядзення ў Кіеве шматлікіх сацыялінгвістычных канферэнцый, падчас якіх асабліва напружана працуе дапытлівая думка даследчыкаў, сведчыць пра настойлівасць пошуку ўкраінскімі культурнымі і навуковымі дзеячамі аптымальных шляхоў адраджэння і сцвярджэння ва Ўкраіне ўкраінскай мовы. Не даводзіцца сумнявацца, што нашы ўкраінскія сябры вырашаць пастаўленыя перад сабой задачы паспяхова.

***Сяргей Запрудскі, г. Менск, 26 ліпеня 2001 г.***



№ 32 (520) 8 ЖНІЎНЯ 2001 НАША СЛОВА

Язэп Палубятка




(Заканчэнне)

Усё складвалася так добра, але толькі інтэлегенцік Зотаў праз дзве гадзіны разбурыў іх грандыёзныя планы і надзеі, бо да гэтага часу ён зрабіў сваю справу і даў заключэнне на факт смерці грамадзяніна Крыніцы А. П. кароткім і страшным словам — інфаркт.

А зараз...

Зараз Сцяпан Сцяпанавіч Улановіч схапіў апошнюю старонку справаздачы і, урэшце, прачытаў, імя таго злачынцы, хто зрабіў гэты надпіс: загадчык хірургічнага аддзялення Смірноў К. Н.

Улановіч ужо не мог стрымаць сваіх пачуццяў.

— Падла! Я з ім яшчэ сёння піў спірт.

Ён што было сілы зноў сціснуў кулак і са злосцю хацеў стукнуць па надпісу, але пахіснуўся і замік сценкі трапіў у дзверы. Кручок, на якім зачыняўся шаноўны кабінет, не вытрымаў і адарваўся. Дзверы адчыніліся.

У час нямой сцэны з п'есы вялікага М.В. Гогаля толькі ў пастаноўцы мясцовых тэатралаў пачуўся голас следчага.

— Дакрычаўся, галубчык!

Міліцыянер хуценька схапіў "галубчыка" пад руку, падняў яго з наседжанага месца і вывеў да людзей.

XIX

Будаўніцтва новай паліклінікі ў раённым горадзе Н. (як звычайна паведамляе наш друк) ішло поўным ходам. Да абеду прывезлі толькі адну машыну рошчыны. Пасля абедзеннага перапынку сюды звычайна не заязджалі. Не заязджала і начальства. Рабочыя, як звычайна, знаходзілі сабе занятак па магчымасцях, па здольнасцях, а некаторыя і па густу: хто забіваў "казла" у даміно, хто рэзаўся ў карты, хто спаў, а хто проста загараў. Жанчыны таксама разышліся хто куды: хто ў краму, хто ў цырульню, а хто проста ў блуд. Адзін толькі Фунфырык, які яшчэ зранку заглыкнуў дзве бутэлькі цудоўнага напітку з празрыстаю назваю "Клопомор", не мог знайсці сабе занятку. Ён прыставаў да сваіх таварышаў па кельме з адной толькі просьбаю: "Пастаў". Куды толькі не пасылалі яго людзі, што толькі не гаварылі — Фунфырык не крыўдзіўся. Урэшце ён падышоў да брыгадзіра, самага аўтарытэтнага тут чалавека, які валодаў вялікім запасам будаўніча-мацюкальных тэрмінаў, а зараз практыкаваўся ў іх ужыванні, выказваючы такім чынам сваю незадаволенасць напарнікам па гульні ў карты. Падышоў і рашуча прапанаваў:

— Давай паспрачаемся!

Брыгадзір змоўк, бо сваім зваротам Фунфырык зблытаў яго думкі, паглядзеў на гэтую сінюшнюю гулю, якая мела назву нос, затым на спаленыя на сонцы растапыраныя вушы, паклаў на зямлю карты і працягнуў руку.

— Згодзен!

Фунфырык схапіўся за працягнутую руку і імгненна выказаў сэнс спрэчкі і ўмову.

— На бутэльку "чарвяка". Залезу вунь на той кран і пратрымаюся адной рукою дзесяць хвілін.

— Згодна.

Праўда, пачуліся галасы сумнення, але Фунфырык іх не чуў. Ён быў ужо на шляху да сваёй мэты . Яго не палохала вышыня, бо ўзнагародай за гэтую рызыку павінна была быць бутэлька "чарвяка" — запаветная мара кожнага п'яніцы.

XX

Бухгалтэрыя райбальніцы, якую размарыла амаль што летняя спякота, пясцілася сітром, у якім не было не толькі вуглякіслага газу, але і цукру. Намеснік галоўнага бухгалтара моршчылася, але ўсё ж дапівала гэты цудоўны напітак мясцовай вытворчасці — не прападаць жа дабру! — і ў гэты момант абыякава кінула позірк на нерухомую стралу пад'ёмнага крана. На самай яго верхавіне вісеў чалавек і кволае цела хістаў з боку ў бок цёплы ветрык.

— Бабанькі! Банік вунь павесіўся!

Жанчыны, як спалоханы натоўп дзікіх буйвалаў, рынуліся да акна, каб упэўніцца што сказанае адпавядае праўдзе. Упэўніліся і за тым з гэткім енкам, крыкам, гвалтам кінуліся з пакоя і затупацелі па калідоры.

На шум з прыёмнай выбегла сакратарка і хацела ўжо разам з усімі бегчы ратаваць Банкевіча, але ў апошні момант перадумала і вырашыла паведаміць пра ўсё галоўнаму ўрачу.

"Кіраўнік павінен ведаць усё!"

Улановіч упёрся локцямі ў стол, а далонямі абхапіў галаву і прыдуркавата глядзеў на свой залаты гадзіннік — падарунак цешчы "дарагому зяцю". Ён назіраў за тым, як марудна паўзе секундная стрэлка гадзінніка. Колькасць секунд да канца гэтага ідыёцкага працоўнага дня ён палічыў даўно, а цяпер толькі назіраў, калі гэты дзень скончыцца. Увайшла ў кабінет сакратарка і ўраз усё пераблытала.

— Вунь Банік на кране павесіўся.

Сказала яна не з далікатнасцю сакратаркі, а як жанчына — з лямантам. Сказала і пабегла, бо яе прысутнасць там, на вуліцы, была проста неабходна.

З акна ў кабінеце галоўнага ўрача была бачна толькі частка крана, але затое ў правым яго куце былі відаць яго ногі, якія разам з туловам хістаў вецер.

Падарунак цешчы "дарагому зяцю" раптам ператварыўся ў чорную пляму, сцены захісталіся, а потым пачалі падаць...

Калі сакратарка вярнулася назад і зайшла ў кабінет да галоўнага ўрача, каб распавядаць яму пра ідыёцкія выбрыкі прыдурка Фунфырыка, то знайшла свайго начальніка пад сталом у беспрытомным стане.

Рыгор Банкевіч, які перанёс нярвовы стрэс, усяго гэтага нічога не ведаў і не жадаў ведаць, а проста сціснуў у далоні руку сваёй жонкі, напэўна, каб не ўцякла, паклаў яе пад галаву і бестурботна спаў у сваім пакоі.

Шура Банкевіч, якая выпадкова даведалася пра няшчасце, якое здарылася з яе былым мужам, адпрасілася з працы і ўжо дзесятую гадзіну сядзела ля яго ложка і ўвесь час абдумвала тэкст скаргі ў Міністэрства аховы здароўя на прайдзісвета і бабніка — галоўнага ўрача раённай бальніцы.

А тым часам дачка Банкевічаў згодна з маміныя парадамі рыхтавала вячэру на тры асобы.

Дуралесіца не скончылася!
ДУРАЛЕСІЦА ПРАЦЯГВАЕЦЦА !
1989 г.

***Ад рэдакцыі:** Мы друкаваць "Дуралесіцу" скончылі. Але, нажаль за 12 гадоў пасля яе напісання нашая краіна паразумнела мала. Дастаткова замяніць першага сакратара на першага вертыкальшчыка, і можна запускаць "Дуралесіцу" на новы віток.*

# Чаму бацькі-беларусы ў школах выбіраюць рускую мову?

З перапісу 1999 г. вядома, што большасць грамадзян Беларусі назвала сябе беларусамі, з павагай адносіцца да роднай мовы, называючы яе роднай, а звыш адной трэці карыстаюцца ёю дома. Безумоўна, гэта вынік тога зруху ў нацыянальным адраджэнні, які пачаўся ў пачатку 90-х гадоў, калі ішло імклівае будаўніцтва нашай дзяржаўнасці, адраджэнне роднай мовы, якая была аб'яўлена адзінай дзяржаўнай. Мы ўсе тады ўпершыню пачулі, як на сесіях ВС 12 і 13 га склікання старшыні яго С. Шушкевіч, М. Грыб і многія дэпутаты пачалі выступаць выключна на беларускай мове, а ў дзяржустановах службоўцы таксама стараліся гаварыць на ёй. Дарэчы, такога цяпер няма ўжо некалькі апошніх год.

У той час бацькі ў Ашмянах, як і ва ўсёй краіне, паверылі , што іх дзеці, як вырастуць, будуць служыць суверэннай Беларусі. На прапанову работнікаў РАНА перайсці на навучанне ў гарадскіх школах на роднай мове масава давалі згоду. Тады ў Ашмянах адкрылі 12 беларускамоўных першых класаў і толькі 2 рускія. Так было некалькі год. Настаўніцкія калектывы ўспрымалі такое, як непазбежную з'яву, хоць некаторыя мелі цяжкасці з моўным пераходам. Праўда, і ў нас былі выпадкі, калі некаторыя бацькі дабіваліся адкрыцця рускага класа і перавода беларускага на гэтую мову праз РАНА і райвыканкам. Дзеці наборау тых гадоў цяпер вучацца ў 5-11 класах і з'яўляюцца для ўлады доказам раўнапраўнасці моў, якой на самой справе не існуе ў апошнія гады.

Але чаму сёння гэтыя самыя людзі, бацькі амаль пагалоўна і павальна выбіраюць рускую мову навучання ў школах для сваіх дзяцей? Прычын тут, вядома, некалькі.

Найперш, некаторыя страцілі веру ў перспектыву нацыянальнага адраджэння, на іх адмоўна дзейнічае працэс інтэграцыі Беларусі з Расіяй у адну саюзную дзяржаву, у якой, бяспрэчна, панаваць будзе руская мова. Дрэнны прыклад падаюць вярхоўнае кіраўніцтва Беларусі і чыноўнікі ўсіх рангаў дзяржаўных устаноў, якія ўсім паказваюць, што ўжо цяпер, у незалежнай пакуль Беларусі, родная мова стала непатрэбнай. Навошта яе вучыць?

Адны мае субяседнікі лічаць галоўнай прычынай – адсутнасць у Рэспубліцы сярэдніх і вышэйшых навучальных устаноў на беларускай мове. У пачатку 90-х гадоў у час уздыму нацыянальнага адраджэння прафесійна-тэхнічныя, сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы не перайшлі на родную мову навучання, таму выпускнікі школ не маюць магчымасці вучыцца на ёй далей. Не вырашае праблемы і дадзенае абітурыентам права выбіраць мову ўступных экзаменаў, бо хоць большасць выбірае родную мову, але перспектывы вучыцца на ёй няма. Гэта добра разумеюць і бацькі, таму лічаць за лепшае вучыць дзяцей у школе на рускай мове. Вось чаму такой надзённай і патрэбнай з'яўляецца праца і намаганні кіраўніцтва ТБМ імя Ф.Скарыны і яго старшыні Алега Трусава і свядомых беларусаў адкрыць Беларускі нацыянальны універсітэт і беларускамоўныя плыні ў іншых ВНУ.

Другія суразмоўцы прычынай цяперашняга выбару бацькоў рускай мовы навучання і выхавання лічаць дзяржаўнае двухмоўе, якое ўведзена па ініцыятыве прэзідэнта праз рэферэндумы. Толькі статус адзінай дзяржаўнай беларускай мовы, нададзены ёй у 1990 г. і замацаваны ў Канстытуцыі 1994 г., мог выратаваць і адрадзіць яе, прыгнечаную вякамі ў Рэчы Паспалітай, царскай Расіі і ў савецкі час. Выцясняць наша слова з ужытку двухмоўю дапамагае права выбару адной мовы, нададзенае людзям таксама па ініцыятыве прэзідэнта, ухваленае народам на рэферэндуме і замацаванае ў Канстытуцыі 1996 г. На гэтай падставе ўсе службоўцы, пачынаючы ад прэзідэнта, карыстаюцца амаль выключна рускай мовай. Гэта ведаюць і бачаць бацькі і робяць адпаведную пераарыентацыю ў сваіх дзеяннях.

Такім чынам некалькі неспрыяльных "аб'ектыўных" фактараў прымусілі бацькоў-беларусаў насуперак сваёй нацыянальнай прасветласці і разуменню адпаведным чынам прыстасавацца да сучаснай антыбеларускай сітуацыі ў краіне. Толькі ж гэта сітуацыя ствараецца суб'ектамі прэзідэнцкай улады. Так, у мінулым годзе Міністэрства адукацыі было ініцыятарам прывязання ў адпаведнасць з дзейнай Канстытуцыяй "Закона аб мовах у РБ". Яго "удасканалілі" і запісалі, што ўсе людзі і дзяржустановы маюць права выбіраць і карыстацца "беларускай *і*, ці, *або* рускай мовай". Такім чынам была падведзена аснова пад ліквідацыю беларускіх класаў у школах краіны. Аб гэтым міністр адукацыі В. Стражаў сказаў так: "Аднак гэты працэс трэба лічыць заканамерным і правамерным, так як камплектаванне класаў і груп па мове навучання і выхавання ажыццяўляецца ў адпаведнасці з пажаданнямі бацькоў". (СБ, 27.05.2000 г.).

У гэтым годзе яшчэ адзін суб'ект прэзідэнцкай улады – Цэнтр заканатворчасці – падрыхтаваў праект закона аб зменяннях і дапаўненнях у Закон "Аб адукацыі ў РБ", які ніякім чынам не забяспечвае роўнага статусу беларускай і рускай моў, а вядзе да ліквідацыі роднай мовы ў навучанні і выхаванні ў Беларусі.

Але такія неспрыяльныя, а дакладней – згубныя ўмовы для нашай мовы нельга лічыць аб'ектыўнымі, бо іх стварае сама вярхоўная ўлада РБ. Таму ў яе поўнай сіле і моцы змяніць гэтыя ўмовы на лепшыя, спрыяльныя і справядлівыя для грамадзян карэннай нацыі нашай Радзімы. Або ёсць і іншы падыход. У нашай сіле і моцы змяніць гэтую ўладу на тую, якая забяспечыць нам патрэбныя ўмовы.

***Міхась Пузіноўскі,***
***г. Ашмяны.***





**Станіслаў Суднік**

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэднім нумары.)*

Пасярод Касцянева быў лужок. Што такое сейлавіцкі лужок? Калі жартам, то гэта нешта пераходнае ад лужыны да возера. Калі сур'ёзна, то гэта невялікі вадаём у большай ці меншай ступені забалочаны. Вясной лужкі напаўняліся вадой. У засушлівае лета маглі высыхаць ушчэнт. Некаторыя былі нават зарыбленыя, але ў большасці акрамя жабаў і апалонікаў нічога не вадзілася, хаця мог трапіцца і трытон. Лужок на Касцяневе называўся **Мар'янюкоў лужок**, па мянушцы гаспадара хутара, на чыёй зямлі гэты лужок быў. Сапраўднае прозвішча гэтага гаспадара Салавей, але Салаўёў у Сейлавічах шмат, таму амаль кожны меў мянушку. І калі падыходзіць з пункту гледжання этнаграфіі, то нельга гэты лужок назваць Салаўёвым, бо ніхто не ведаў і ведаць не будзе, што і дзе гэта. А вось Мар'янюкоў лужок да гэтага часу памятае шмат хто, хоць сам лужок даўно асушылі. Мне і надалей побач з прозвішчамі давядзецца ўжываць мянушкі, інакш не разабрацца, і я папрасіў бы сейлаўцаў не крыўдзіцца, калі нейкая мянушка для каго не зусім прыемная.

Наогул жа высяленне на хутары ў 20-я -- 30-я гады 20-га стагоддзя значна змяніла тапаніміку, бо шмат якія адвечныя назвы дробных мясцін пачалі замяняцца назвамі паводле іменаў, прозвішчаў і мянушак хутаранцаў, якія пасяліліся ў гэтых мясцінах.

На поўдзень ад Касцянева зноў ляжала балота. Як было ўжо сказана, гэтае балота таксама з басейна Тур'і. Яно было значна большае за балота каля вёскі і ўжо мела сваю назву. Гэтае балота называлася **"Алешнік"** з-за вялікіх зараснікаў алешыны. Гэта было ўжо глыбокае тарфяное балота. Тут рэзалі торф. Горшы, чым у Вомшары, але зусім прыдатны. Менавіта гэтае балота магло быць тым возерам з падання пра бітву.

За Алешнікам новае ўзвышша. Гэтае ўзвышша носіць назву **"Ліпніцкія"**. Ліпніцкія -- невялікі засценак, але шырока раскіданы і больш падобны на хутарны масіў. На карысць таго, што гэта засценка гаворыць і назва, якая паходзіць хутчэй за ўсё ад прозвішча Ліпніцкі. Шляхечых радоў з такім прозвішчам на Беларусі вядома дастаткова. **Але найбольш важкі аргумент** – гэта наяўнасць уласных могілкаў. Ні Кулік, ні Касцянева ні іншыя хутары сваіх могілак не мелі. Безумоўна, што назва Ліпніцкіх магла паходзіць і ад ліпы. На Нясвіжчыне некалькі вёсак носяць назвы **Ліпа, Ліпка.** Разам з тым ліпнічанцы былі розныя і не ўсе хаваліся на сваіх могілках. Іншыя хаваліся на сейлавіцкіх. У 20-м стагоддзі ўсе ліпнічанцы адносілі сябе не да слаўкаўцаў, а да сейлаўцаў, хоць да Слаўкава і бліжэй, і балота паміж імі няма. На карысць таго, што гэта быў засценак кажа і тое, што ліпнічанскія могілкі каталіцкія.

На захад ад Ліпніцкіх і паўночны захад ад Сейлавіч размешчана **Бажантарня**. Назва гэтая хутчэй за ўсё ўзялася ад таго, што тут размешчаны вельмі старыя каталіцкія могілкі. Менавіта тут пахаваны напалеонаўскія жаўнеры. Могілкі знайходзяцца надзвычай далёка ад каталіцкага канца Сейлавіч. Разам з тым праваслаўныя могілкі знайходзяцца на ўсходнім краі праваслаўнай часткі вёскі, хаця павінны быць на заходнім. Тлумачыць сітуацыю ізноў жа мясцовае паданне, паводле якога некалі засценак быў на заходнім канцы Сейлавіч, а вёска на ўсходнім. Прыгонныя сяляне мусілі хадзіць у Ганусаўшчыну, у двор на працу праз засценак. Яны спявалі песні, падымалі пыл, што не падабалася шдяхце. Ганусаўскі двор, а значыць і сейлавіцкія сяляне, належалі Радзівілам. Сейлавіцкая шляхта ўвайшла ў канфлікт з князем Радзівілам і князь рассудзіў, па княжы, загадаў сялянам перасяліцца на заходні край, а шляхце на ўсходні. Так і аказаліся шляхочыя могілкі за тры з лішнім кіламетры ад засценка.

На Бажантарні акрамя могілак былі багатыя сейлавіцкія хутары Марцінкевічаў, Грынявіцкіх і інш.

**Вомшар**, як было сказана, – гэта вялікі балотны масіў з глыбокім пластом торфу. Размешчаны на ўсход ад Ліпніцкіх і на поўдзень ад Куліка. Калісьці тут сапраўды, мабыць было вялікае возера. За маёй памяццю Вомшар толькі пачыналі асушаць, таму я памятаю яго нячэпаным. У Вомшары вельмі шмат было **буінаў**. Іх назва выключна беларуская ад таго, што яны, хоць і падобныя на чарніцы, але значна буйнейшыя. Рускія называюць іх за блакітнаватае адценне **галубікай**, а ў некаторых месцах іх называюць **дурніцамі**, таму што пасля іх збору ўва ўсіх пачынае балець галава. Тады не разбіраліся, што галава баліць не ад буінаў, а ад **багуну**, які заўсёды расце там дзе і буіны.

Раслі ў Вомшары і **жураўліны,** менавіта так, а не **журавіны,** кажуць у Сейлавічах на гэтыя ягады, што зусім лагічна, бо ў Сейлавічах не ўжываюць слова **жораў**, а кажуць **журавель**.

У Вомшары капалі торф. І асноўныя запасы торфу сейлаўцы здабывалі ў Вомшары, бо там пласт быў значна глыбейшым. Пры Польшчы тарфянку куплялі і плацілі за плошчу. Таму рэзалі торф у многа **штыхоў**, каб з адной і той жа плошчы ўзяць як мага болей. Пры Савецкай уладзе, калі Вомшар стаў калгасным, рэзалі па 2-3 штыхі. Глыбей капаць цяжка. Адзін штых – гэта каля 35-40 см, ды 20-30 см **рамоўка** (дзёрн, які здымаецца зверху, каб дабрацца да торфу). Таму ўжо 4-ты штых у адзін прыём не выкінуць наверх. Ды і торф на ніжніх штыхах, хоць і больш якасны, але больш ломкі. У верхніх штыхах яшчэ ёсць неперагніўшыя карэньчыкі, якія мацуюць тарфіну, а ў нізе іх ужо няма. Таму торф з ніжніх штыхоў пры сушцы расыпаецца, але калі за яму заплачана, то капалі і на сем штыхоў.

Капанне торфу – гэта цэлы рытуал. Нават больш урачысты чым сяўба ці жніво.

Вёска капала торф дзён два-тры. Капалі ўсёй вёскай адразу, але кожны капаў сабе. Малалікія сем'і ўтваралі арцелі. Спачатку капалі адным, пасля другім. Нягледзячы, што работа брудная, апраналіся чысцей. Бралі смачнейшы абед, бо на абед дадому не ішлі. Капалі торф у першай палове лета, калі і балота падсохне, і рукі вальнейшыя, бо ўсё ўжо пасеена, а жаць і касіць рана і каб той торф да восені высах. Я ўжываю словы і *"капалі"* і *"рэзалі"*, бо тэхналагічна торф сапраўды рэзалі спецыяльнымі **разакамі**, якія рабіліся ў кузні. Калісьці мой бацька ў маленстве дужаўся і зламаў правую руку, то, каб на яе была меншая нагрузка, заказаў сабе разак пад левую руку. Яго разак ніхто не пазычаў, бо ніхто не мог рэзаць, а я навучыўся рэзаць ім то ўжо не змог рэзаць разаком пад правую руку. Апошні раз я рэзаў торф у Алешніку ў 1972 годзе. Выразаў сам усю тарфянку і ў пачатку ліпеня паехаў паступаць у вайсковую навучальню. Неўзабаве торф уручную рэзаць перасталі, а пачалі купляць брыкет у Караліне.

Пазней некаторы час у Вомшары здабывалі тарфакрошку для калгасаў, а зараз там добры сенакос.

Каб не вяртацца да болей да гэтай тэмы я лічу магчымым падаць тут невялікі абразок пра тэхналогію ручной нарыхтоўкі торфу.

### ТОРФ

*У копцы торфу ўдзельнічала ўся сям'я.*

*Праца пачыналася з разметкі ямы. Сур'ёзныя гаспадары размячалі яму **пад шнур**. Па шнуры **рыдлёўкаю** праразалі дзёрн. Пасля абрэзкі ямы па перыметры пачыналі **здымаць рамоўку**, г. зн. здымаць дзёрн. Дзёрн здымаецца прыблізна на адзін штых рыдлёўкі. Дзёрн укладваецца на тыльны бок ямы, каб потым не замінаў. Пасля зняцця дзёрну яма падчышчалася **шуфлем**, каб не было ніякай травы, смецця і пласт торфу быў цалкам адкрыты.*

*Рэзаў торф гаспадар, або, калі падрасталі сыны, мацнейшы з іх. Пачыналася яма закопваннем аднаго кута. Кут закопваўся рыдлёўкай. Кожная тарфіна першага раду рэзалася ў два прыёмы. Падразалася і выразалася. Наступныя рады рэзаліся ў адзін прыём.*

*Сама рэзка была справай не надта цяжкай, як на маладыя рукі, але навогул то трэба было выкінуць з ямы 10-15 кубоў торфу за дзень. Тарфанку нельга было пакідаць незакончанай, бо да раніцы яна напаўнялася вадой. У крайніх выпадках, калі капалася вялікая тарфянка і за дзень ніяк нельга было ўправіцца то назаўтра ад вады пакідалі парог шырынёй з паўметра.*

*Чалавек рэзаў торф толькі з выкарыстаннем мускулаў рук і спіны. Канструкцыя разака наўмысна не прадугледжвала дапамогі нагі, як, напрыклад, рыдлёўка.*



**Разак**

*Рэзчык быў асноўным элементам у канвееры здабычы торфу. Жанчыны і дзеці таксама былі ўключаны ў канвеер і кожны выконваў сваю функцыю. Адказнае месца займала асоба, якая лавіла тарфіны з разака. На бераг тарфіны не клалі. Папершае, гэта больш марудна, па-другое тарфіна магла зламацца, па-трэцяе па яе трэба было нагінацца. Пры прыёме тарфіны з разака ўсе гэтыя аперацыі прапускаліся і тарфіна ляцела проста ў рукі прыёмчыку, як правіла, гэта была гаспадыня. Калі тарфіну злавіць не ўдавалася, то па яе нельга было нагінацца, таму што наступная падала як раз на спіну. Спроба рэзчыка затрымаць тарфіну ў палёце заканчвалася тым, што яна або ламалася, або падала ў тарфянку, таму звычайна рэзчык не звяртаў увагі на тое, злавілі на беразе тую тарфіну ці не. Прыёмшчык перадаваў тарфіну далей. А там ужо нарэзаныя тарфіны складваліся ў сцірту. У залежнасці ад тога, колькі штыхоў збіраліся капаць, сцірта рабілася ў два, тры, чатыры і больш радоў. У залежнасці ад гэтага вагалася і колькасць прыёмшчыкаў. Пры рэзцы першага штыха магло быць 3-4 чалавекі. На другі штых трэбала менш, на трэці яшчэ менш. Пры вельмі глыбокіх тарфянках тэхналогія прыёму ўскладнялася. Даводзілася ставіць прыёмшчыкаў у яму.*

*У сцірце з торфу першапачаткова сцякала вада. Ляжаць у сцірце торф мог і колькі дзён, пакуль яго не разнясуць па полі для прасушкі. Тыя малюнкі, якія малявалі ў кнігах па геаграфіі пра здабычу торфу рыдлёўкамі і сушцы яго на зямлі выклікалі ў вёсцы смех. І дзецям, каб абараніць гонар падручніка даводзілася тлумачыць бацькам, што так капалі торф даўней, а як капаюць цяпер у кніжку не намалявалі; бо нашто маляваць, калі так усе ведаюць.*

*Разам з тым у іншых месцах і ў іншыя часы капалі і па- іншаму.*

*Калі ў каго быў пад рукой конь, то маглі капаць **і не ў сцірту, а на панарад**, г. зн. на воз, з якога зняты драбіны, а на ніз пакладзена шырокая дошка (гнаянка). І потым развозілі торф для прасушкі.*

*Сушылі торф таксама не так, як намалёвана было ў кніжках. Тарфіны мелі строгую форму паралепіпеда 30х10х10 (35х12х12). Таму іх раскладвалі па полі не адна каля адной, для гэтага трэба было вельмі многа месца, а рабілі хаткі (кучкі) з 7 – 11 тарфін. Дзве – на ніз з адлегласцю паміж імі на адну тарфіну, дзве ўпоперак на іх, дзве зноў упоперак і г.д. А зверху адна, як правіла ломаная, або 1-2 кавалкі. Атрымоўвалася такая вежачка (хатка), якая прадувалася ветрам уздоўж і поперак. Хаткі ставіліся адна каля адной, як прайсці. Праз некаторы час верхнія тарфіны падсыхалі. Іх забіралі і па магчымасці вывозілі, а кучкі перакладвалі: верхнія сушшыя тарфіны ішлі на падваліны, а ніжнія мокрыя -- наверх і дасыхалі.*

*Вывозілі торф на вазах, рэдка на машыне ці трактары. Звычайныя драбіны абсталёўваліся яшчэ так званымі дрэпсамі (драпсамі)-- застаўкамі спераду і ззаду, каб больш накласці, і каб торф не выкідваўся. Укласці воз торфу – гэта было таксама мастацтва. Пасля сушкі шмат якія тарфіны трэскаліся ламаліся. Каня возьмеш не кожны дзень ды і ездзіць многа разоў было мала ахвоты. Таму воз ладаваўся адмыслова. Тарфіны і кlаліся, і ставіліся па краях, кавалкі закідваліся ў сярэ-дзіну; верх ізноў рабіўся з цэлых. Асноўная задача была выехаць з балота. Здаралася, што лопала вяроўка ці пастронак, здаралася, што воз перакульваўся, можна было і ўгразнуць. Тым не менш на зіму прывозілі ад 10 да 20 вазоў торфу, ды яшчэ і дровы ж вазілі.*

*Пазней , калі пачалі купляць брыкет, то хапала добрай машыны. Зараз значная частка Сейлавічаў газіфікавана, то паліва трэба даволі мала. У каго газ не падведзены, таму горш.*

*Дадам, што гаспадыні торфам паліць не вельмі любілі, бо ён павольна разгараўся, і з яго было шмат попелу.*

Паміж Куліком і засценкам па цячэнню Тур'і былі **Прыдухі**. Месца, дзе нарэшце ўсе сейлавіцкія прытокі Тур'і збіраліся ў адно. Тур'я тут як бы сціснута, здушана з двух бакоў узвышшамі. Прыдухі - невялікая мясціна з дрэннай зямлёй. "Прыдухі – задухі", - гаварылі на гэтую зямлю, якая працы патрабавала, а ўраджаю не давала. То можа быць, што рэчка да назвы і не пры чым, а пры чым якасць зямлі.

На ўсходзе сейлавіцкіх зямель на стыку з бузуноўскімі і затурэнскімі знайходзяцца **Прыдаткі**. Землі, калі меркаваць па назве, ад некага прыдадзеныя Сейлавічам. Так жа называліся і хутары.

*(Працяг у наст. нумары.)*

